


Фота Ул. Скрабатуна

31 ліпеня-1 жніўня ў Мінску адбыўся VI-ты з`езд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне». На ім прысутнічалі двое дэлегатаў з Глыбоччыны. Сярод асноўных пытанняў былі выбары новага кіраўніцтва БНФ: старшыні руху і складу Сойма. На лідэрства прэтэндавалі Зянон Пазняк і Вінцук Вячорка. Пры тайным галасаванні высветлілася, што за Вячорку прагаласавалі 152 дэлегаты, а за Пазняка -- 156. Як вынік -- старшыня руху не абраны. У верасні-кастрычніку адбудзецца другая сесія вышэйназванага з`езду, якая дасць, спадзяёмся, адказы на ўсе пытанні.

Гісторыя з вуснаў сведкі

# След «Аўроры» ў Глыбокім

Прыстойны драўляны домік чырвонага колеру па вуліцы Горкага,23. Тут некалі жыў Кузьмін Андрэй Іванавіч, які да рэвалюцыі служыў на крэйсеры «Аўрора». Цікава, але гэты факт прайшоў міма вушэй тагачаснага кіраўніцтва раёна, якое павесіла б на хаце шыльду ды рабіла б сустрэчы з піянерамі на тэму патрыятычнага выхавання.

Гэты эпізод паведаміў аўтару жыхар горада спадар Вярцінскі. А справа адбывалася так. У 1970 годзе глыбачане паехалі на экскурсію ў Ленінград. Сярод іх -- Андрэй Іванавіч з унукамі. Падышлі да крэйсера «Аўрора», які стаяў на Няве. Караульны матрос не пускае на карабель. А.І. Кузьмін кажа: «Я да рэвалюцыі служыў тут» і дастае пасведчанне з двухгаловым арлом (герб Расійскай Імперыі). Матрос пабег да афіцэра. Прыходзіць начальства, запрашае Кузьміна і дзяцей на карабель. Аднак, спадара Вярцінскага, які паведаміў гэту гісторыю, папрасілі застацца на вуліцы.

Як бы там не было, але для матросаў і афіцэраў было вялікім гонарам сустрэцца з глыбачанінам, які служыў на крэйсеры, што зрабіў гістарычны стрэл.

За «польскім часам» Андрэй Іванавіч быў вялікім аматарам фітбола, гуляў за глыбоцкую каманду. Працаваў ён электрыкам і кожную ноч залазіў на гарышча глыбоцкай царквы, дзе на купале стаяў шкляны крыж з электралямпачкай. Запальваў святло і крыж свяціўся ўночы.

**У.Скрабатун**

Азірнёмся

# Лінг у Шаркоўшчынскім раёне

Аб тым, як 25 чэрвеня прэм`ер-міністра Беларусі С. Лінга сустракалі ў Глыбокім мы ўжо пісалі. Сёння сталі вядомы падрабязнасці сустрэчы гэтага чынаўніка ў суседнім Шаркоўшчынскім раёне. Таму яшчэ раз азірнёмся на 25 чэрвеня...

Калгас Ільіча не ведаў, як дагадзіць прэм`еру, таму падрыхтоўка мелася пачацца з паліву бальшака, на які за ўсе гады савецкай улады і паслясавецкай дэмакратыі так і не прылёг асфальт. Дзеля паліву хацелі задзейнічаць малакавозы. Але тут паўстае пытанне: калі паедзе чыноўнік? Бо калі палеш за гадзіну-другую да яго з`яўлення, пякельнае сонца выліжа ўсю ваду падчыстую, а Лінг, таго і глядзі, задушыцца ад пылу, які падымуць машыны суправаджэння. На «ўзводзе» было раённае начальства, мясцовыя калгасныя «баі», у напрузе трымалі прості люд. Відаць, Бог злітасціўся над над апошнімі і даў дождж. Працэдура паліву адпала сама па сабе.

Не менш хваляваліся і жывёлаводы, якія ўжо збіраліся мыць кароў шампунем. Праўда, да гэтага не дайшло. Брудных кароў з раніцы выгналі для абмыву на расу. Прырода і тут дапамагла бедным сялянам, ад якіх патрабавалі занадта шмат і занадта смешнага.

Кароўкі паеўшы і паляжаўшы на расе, значна пачысцелі.

На паляводстве таксама рабіліся хуткія новаўвядзенні.Так, на кожным полі былі пастаўлены таблічкі--ўказальнікі, што тут пасеена і што расце. Яно і зразумела, прэм`ер хоць чалавек і граматны, але пшаніцу ад ячменю можа і не адрозніць.

Спешна праяўляўся і «сацыяльны» клопат пра насельніцтва. На вясковых могілках быў пасыпаны жоўценькі пясочак і ўзведзена катафаль--узвышэнне з дошак, на якое ставіцца труна. Збоку зрабілі месца для крышкі і ўзвялі стоечку для кніжкі, з якой чытаюцца малітвы пры адпяванні пакойніка.

Неверагодны клопат! Лінг праехаў ля стараннага калгаса, не зазірнуўшы ні на палі з таблічкамі, ні на могільнік з катафаллю. Вяскоўцы жартуюць зараз: хто ж першы ляжа на гэтае «цывілізаванае» месца і, дзякуючы прыезду Лінга, будзе пахаваны з такімі выгодамі.

Жыццё. Усё па-ранейшаму робіцца напаказ і ніхто не думае пра чалавека. Смешна? Горка ад смеху.

**Н. Дворская.**
**Шаркоўшчынскі раён**

Вандроўкі «Вольнага Глыбокага»

*«Вольнае Глыбокае», як грамадская арганізацыя, рэалізуе свае ўласныя праекты. Адзін з іх -- краязнаўчыя вандроўкі па Глыбоччыне -- мае на мэце: дайсці, даехаць да кожнай вёскі, кожнага хутара. Ужо сабрана шмат цікавага матэрыялу, якога хопіць на дзесятак газет. Аб цікавых знаходках абавязкова паведамім на старонках нашай газеты.*

*Мы шукаем цікавых людзей і знаходзім. Адны займаюцца краязнаўствам, другія пішуць карціны, нехта збірае старажытныя манеты, хтосьці пляце з саломы капелюшы. А вось сям`я Казіцкіх з Галінова, што ў Псуеўскім сельсавеце, займаецца пчалярствам.*



# ПЧАЛІНЫ ГОРАД

Мы не маглі не спыніцца і не завітаць у гэты двор. З гасцінца адкрываўся дзіўны відарыс: увесь сад застаўлены шматлікімі вуллямі. Такі «пчаліны гарадок» наўрад ці знойдзеш дзе яшчэ на Глыбоччыне.

На здымку ўверсе: гаспадыня, спадарыня Юлія Вікенцьеўна Казіцкая, распавядае членам экспедыцыі, грамадскім распаўсюджвальнікам «Вольнага Глыбокага», Зміцерам Курцэвічу і Лупачу аб праблемах сваёй пасекі.



Пасека спадароў Казіцкіх налічвае да 100 пчаліных сем`яў. Асноўная праца па догляду за ёй кладзецца на плечы сына, Казіцкага Валерыя Эдвардавіча, які працуе ў Падсвільскім лясгасе. Фактычна -- гэта пасека дзяржаўная, бо сваімі сіламі, як сказала Юлія Вікенцьеўна, мала што можна было б зрабіць: добра лясгас дапамагае. Сама гаспадыня на пенсіі. Некалі працавала дарожным майстрам. Цяпер дапамагае сыну ў мудрагелістай пчалярскай справе. Гаспадары маюць адмысловыя кнігі, прысвечаныя пчалярству, таму праца тут арганізавана і ладзіцца прафесійна. Да таго ж дапамагае вопыт: Казіцкія займаюцца пчоламі ўсё жыццё.

За сезон пасека дае да 1,5 тоны мёду, а таксама воск і праполіс. Дзяржава дапамагае цукрам.

Пчолы збіраюць мёд на вакольных палях, якія засеяны рапсам і канюшынай. Засталіся ў ваколіцах вялікія ліпы на месцы колішніх панскіх фальваркаў. Тыя ліпы не мінаюць пчолы. Дарэчы, адным з вакольных фальваркаў валодаў некалі род Корсакаў.



Такі відарыс адкрываецца з гасцінца на пасеку Казіцкіх што ў вёсцы Галінова. Гаспадыня адзначала, што супрацоўнікі «Вольнага Глыбокага» былі не першымі, хто завітаў на гэтую пасеку. І тое зразумела: хоць і ўдалечыні ад бойкіх дарог Глыбоччыны, хоць і ў глушы, але існуе сапраўдны цуд, створаны руплівымі чалавечымі рукамі. А яшчэ гаспадыня пахвалілася, што са сталіцы прыязджала нядаўна Беларускае тэлебачанне. Здымала фільм.

Згадваюцца словы Галіны Сутулы з яе апошняга зборніка: *«Бедны стол без хлеба, пустая ніва без зярнятка, поле -- без колаcа, чалавек -- без таленту, а зямля без шчырых працавітых рук».* Мы жадаем сям`і Казіцкіх доўгага, як дарогі, лёсу, моцнага здароўя, плёну ў нялёгкай працы, салодкага, як мёд, жыцця. І няхай множыцца пчаліны род і не злятаюць ў прочкі гуллівыя сем`і.

**Тэкст і здымкі Ул. Скрабатуна**

Думкі з канвертау

# «Хочаш -- не хочаш, а мы -- цёмныя...»

Прачытала ў Вашай газеце людскія пісьмы і падумала: «Якія малайцы жанчыны, што здолелі напісаць праўдачку.» Ніколі ў жыцці нікому я не пісала, а зараз пішу. Даруйце, што няграматна пішу, бо маю ўсяго клас польскай школы. Адзін год правучылася, так-сяк распісацца магу, прачытаць і ўсё. Астатняе жыццё, ужо 50 год, акрамя салёнага поту, прыгорычаў мазоляў нічога не маю. Іншы раз хацелася б пачытаць -- часу няма. Тэлевізар калі і гляджу, то толькі серыялы. Абрыдлі бясконцыя праблемы свае -- хоць на чужое жыццё паглядзець ды парадавацца. Нас, калгаснікаў, завуць цёмнымі, неадукаванымі. Згодна і не крыўдую: хочаш -- не хочаш, а мы -- цёмныя». Ні да палітыкі нам, ні да культуры. Ды і выбары нам, як сабаку пятая лапа. Каго мы ведаем? Што нам тыя дэпутаты дадуць? Усе абяцаюць і нічога яшчэ не выканаў. Такое жыццё нам дзяржава «падарыла», каб мы нічога не зналі, не чулі, не цікавіліся і былі ўдзячны хоць за жабрацкую пенсію, якую плацяць своечасова.

Нядаўна дачка маёй знаёмай паехала да сяброўкі у Англію. Тая сяброўка наваселле спраўляла ну яе і запрасіла, дарогу аплаціла. Прыехала наша дзяўчына туды, а ў хаце новай -- раскоша, чысціня, багацце.Адзін пакой толькі не паклееным застаўся. Шпалеры ляжаць, клей ёсць. Пакуль гаспадыня па справах ездзіла, госця шпалеры тыя паклеіла. Вось дзіва нам: мы ж на ўсё спецыялісты. Але для англічанкі гэта было сапраўдным дзівам. Яна чакала спецыяльную брыгаду, а тут адна ўзялася і зрабіла. Усё дапытвалася: «А што ў вас настаўнікі (а дачка маёй знаёмай настаўніца) -- яшчэ ўмеюць і клеіць? І рамонты рабіць?

Адразу бачна, што не жыла на Беларусі. У нас настаўнікі, дактары ўмеюць і касіць, і гной кідаць, і палоць, і фарбаваць, і свінней карміць.

Гэта ў іх там вузкая спецыялізацыя: калі ты фермер, то ведаеш толькі сваю справу. Во таму там і спецыялісты, і вынікі, і ўзровень жыцця. А ў нас толькі каманды раздаюць хто ад сябе, а самі нічога не разумеюць. Як у тым анекдоце: «Мы не думаем, мы ведаем». А хацелася б, каб тыя, хто намі кіруе, думалі перш за ўсё пра нас, цёмных, якія іх выбіралі.

Як не круці, а Лукашэнку выбралі мы, вясковыя неадукаваныя пенсіянеры. І, «дзякуючы» нашай цемнаце, не жыве, а мучаецца большасць грамадзян --нашы дзеці, унукі. Мы пасля пажару засталіся, лічы, голымі -- усё згарэла, а абжыліся пасля вайны. Цяпер жа хоць з торбай ідзі міласціню прасіць.

Пішу гэта ўсё таму, што ўпэўнена, калі трэба каго выбіраць для кіравання, трэба даваць меншасці -- разумным, адукаваным, вопытным людзям, а не нам, большасці, якой толькі прыкрываюцца, а пасля пераўтвараюць у нікчэмнасць. А як даверыліся цёмнай большасці, то і атрымалі тое, што маем. Гэта ж колькі ўсялякіх падаткаў павыдумалі, страховак, плацяжоў! Хутка за дождж, град і сонца плаціць будзем. Цягніце з нас апошнія «сокі» пакуль мы яшчэ жывыя. Але з каго будзеце цягнуць, як вымрэ нацыя? Нас жа беларусаў жменька засталася, гаратных і пакрыўджаных. Адна надзея на Розум. Ёсць жа талковыя кіраўнікі. Ёсць разумныя. Але ім, як і ў нас у калгасе, няма месца. Здурняць, абсмяюць, паперакаюць, што ты нікчэмнасць. Я не ведаю ніякіх палітыкаў, але і пры Лукашэнку жыць болей няма моцы. Хай ён забярэ сабе маю пенсію ў чатыры мільёны, якую дае своечасова і перастане біць сябе ў грудзі, даказваючы, што яму перашкаджаюць. Людцы разумныя, дзе вы? Хоць бы перад смерцю дзянёк пажыць, як у той Англіі. Пішыце, бабкі, ў газету. Няхай усе чытаюць, як жыве той цёмны народ, волей якога прыкрываюцца, каб усядзець на пасадзе.

**Анэля Муляронак**
**Глыбоцкі раён**

# Лета. Усіх сагналі на касьбу

Майму абурэнню няма канца. Я -- дзяржаўны служачы. Адпрацаваў ужо на адным месцы больш 20 год. Ніколі не адмаўляўся рабіць тое, што патрабуюць, але зараз маўчаць проста няяк. Увесь май ад`ездзілі на сена. Праз тры-чатыры дні даводзілася выязджаць, бо мужчын у арганізацыі няшмат. Работа стаіць. На выхадныя трэба ехаць да бацькоў памагаць касіць на карову, дома гаспадарка. Каб быў трохжыльны, не вытрымаў бы. На такой спецы косім цэлы дзень, грузім сырое, зялёнае, цяжкае. Мы мужчыны, але не валы ж. Здароўе слабае. Прыхапіла сэрца пасля адной такой паездкі і ледзь не канцы. Хто маіх дзяцей будзе гадаваць, калі што? Тая гаспадарка можа на якую я сена сваёй касой касіў? Можа «вертыкаль» ці «народна абраны» Лукашэнка? Чым патрабаваць ад нас тое, што мы рабіць не абавязаны і пагражаць звальненнем за адмову, можа лепей узяць косы нашай «вертыкалі», усяму ўраду? Гляньце колькі дармаедаў па кабінетах сядзіць і патрабуе, а самі ячмень ад пшаніцы не могуць адрозніць! Усё роўна ад нашага ўраду карысці, як ад казла малака -- няхай пакосяць. Хоць нешта за пяць год зробяць канкрэтнае. Пішу і кажу: на сена болей не паеду, а звольняць -- сяду пад Домам Саветаў і буду прасіць на пражыццё ў нашай разумнай «вертыкалі». На ўсё павінна быць мера, а яе якраз і няма.

**Ягор Андрэенка**
**г. Глыбокае.**

Возера Белае на Залесчыне



«Сюрпрыз» для рыбаловаў

## Разок закінуў вуду і... плаці.

Дажылі ўжо да таго, што рыбная лоўля прыватніку абыходзіцца ў добрую капейку. Азёры Пліса Малое, Забельскае, Мушкацкае, Падлазнае, Падаўты, Свядава, Бяглец, Белае, Ластавіцкае, Гулідаўскае, Вялец, Супонец, Акунёўскае зараз у ведамстве Глыбоцкай паляўніча-рыбалоўнай гаспадаркі. Знайшоўся, нарэшце, «гаспадар», у абавязкі якога ўваходзіць драць штрафы з жадаючых палавіць і адначасова адпачыць на возеры. «Вышэйшы розум» дадумаўся і да тарыфаў за лоўлю. Так, ветэран павінен заплаціць за білет рыбалова-аматара 1млн. 100 тыс руб. Усе астатнія -- 1 млн. 300 тысяч. Прадаюцца і разавыя, за 120 тысяч рублёў, пуцёўкі (што ў санаторый), месячныя -- па 2 млн, сезонныя -- па 12 млн руб. Як дарма для нашага безграшовага грамадзяніна. У інтэрв'ю, якое даў «раёнцы» іхтыёлаг Д.А.Яфіменка, ні слова аб тым, як жа будуць яны гаспадарыць на азёрах, што паляпшаць, што ачышчаць, каго разводзіць. Затое вельмі жорсткія тут папярэджанні караць за парушэнне ўстаноўленых правіл. Вось такія р'яныя ў нас «гаспадары ад дзяржавы». А н준акон лоўлі вось што. Калі вы не ўдзельнік вайны, не вязень фашысцкіх канцлагераў, не інвалід, не дзіця ва ўзросце да 16 год і не член таварыства, то выкладайце за сваё хобі мільёны і дзякуйце дзяржаве за клопат пра чалавека.

**М.Аксіменка**

## Мы губляем, казна --знаходзіць.

Першыя паўтара месяца дзеяння закона аб грашовым зборы за праезд па ахоўваемай тэрыторыі заказнікаў і запаведнікаў толькі ў казну Браслаўскага раёна прынеслі 18 тысяч долараў і больш 600 мільёнаў руб. На гэтыя грошы ўтрымліваюцца 18 экалагічных інспектараў, якія збіраюць «даніну», а таксама абсталёўваюцца 3 стацыянарныя пасты.

Напачатку была перасцярога, што аўтамабілісты пачнуць шукаць аб'язныя дарогі, пазбягаючы аплаты. Але гэтая задума можа выліцца для іх у штраф ад 1 да 5 млн руб. Дарэчы, інспектарскія пасты маюць дэтэктары валют. Не ведаючы таго, адна літоўка спрабавала расплаціцца 100-доларавай падробкай і была затрымана.

Казна грошы знаходзіць, а тыя, хто жыве ў запаведных зонах, і тыя, каму трэба адведаць родных у тых краях, губляюць, бо кожны раз плацяць за праезд 5-10$

**У.Шык**

*Галіна Сутула*

Працяг. пачатак у №№3(21), 4(22), 5(23), 6(24) за 1999г.

# ЖУРНАЛІСЦКІЯ МАНАЛОГІ

14.

Горадок Валомін, у якім мне давялося жыць, налічвае каля 47 тысяч жыхароў-- Глыбокае ў Глыбокім. З Варшавы сюды можна даехаць электрычкай ці камфартабельным аўтобусам. Такія ж вузенькія вулачкі, дагледжаныя пабудовы, шматлікія склепы, прыватныя пякарні, цырульні, пральні. Кожны дзень пачынаецца касцельным звонам. Плыве ён па ваколіцах гарадка, кліча жыхароў у храм. Перад абедам і вечарам зноў знаёмы голас і ланцужок людзей, якія ідуць да пана Бога. Спакойна і лёгка крочыцца з верай.



15.

Цікавая акалічнасць: ля Валоміна, плячо ў плячо, горад Зялёнка. Нават кілametra няма, які б раздзяляў гэтыя два населеныя пункты. У вялікай блізасці ад гарадкоў размяшчаюцца і вёскі.

Зусім нядаўна ля Валоміна пабудавана хуткасная магістраль на краіны Прыбалтыкі. Мая знаёмая, рэдактар мясцовай газеты «Тыднёвік Валамінскі» Агнешка вельмі любіць ездзіць па той трасе, бо яна трохпалосная з адным накірунку, на ёй прастора для абгону і прыпынку. Новая дарога абвівае населеныя пункты і змейкай віецца, хаваецца за гарызонтам. Яе пабудова адным прыйшлася да сэрца і засмуціла другіх. Пра першых, хто любіць ездзіць з ветрыкам, я ўжо сказала. Другія -- гэта прыватнікі-гандляры, якія страчваюць патэнцыяльных пакупнікоў. У кожнага свой інтарэс і свае праблемы.

16.

Спыняемся ў вёсцы і робім фотаздымкі хат, мясцовага касцёла. Усе вясковыя пабудовы «з іголачкі», ля пабудоў чысціня і парадак. Праўда, перш чым сфатаграфаваць прыватную ўласнасць патрэбен дазвол гаспадара: ніхто не мае права ўмешвацца ў асабістае жыццё грамадзян. Добрае права. Яшчэ лепш,што яго выкананне -- норма для ўсіх.



Пад'язджаем да вясковай школы. Мудрагелістая архітэктура прымушае спыніцца. Карціць зайсці ў школу, паглядзець, як там.

Ветліва нас сустракае маладая, год трыццаці двух, дырэктарка. Згаджаецца пабыць гідам і водзіць нас па школе.

Класныя пакоі ўтульныя, светлыя, чыстыя. Шмат стэндаў, вугалкоў, дзе размяшчаюцца падзелкі, зробленыя рукамі вучняў.

Мэбля новенькая, зручная: для першакласнікаў сталы на іх узрост, для старэйшых-- таксама адпаведна ўзросту.




Канец навучальнага года, а такое ўражанне, што школу толькі-толькі адрамантавалі: нідзе не паламана, не спісана дрэннымі словамі.

У школьным туалеце белізна і чысціня аж хочацца заплюшчыць вочы. Ніякага спецыфічнага паху. На падлозе суха. Ёсць туалетная папера, а ў мыйцы ляжыць мыла, праце сушылка, вісяць ручнікі. Здаецца, нас тут чакалі і ўсё спецыяльна падрыхтавалі. Прызвычаіліся мы да нашай паказухі, не можам зразумець, што ў людзей інакш, што ў людзей штодзённа добра, бо зроблена для сябе.

У той школе займаецца 135 вучняў. Заняткі ідуць з васьмі да двух гадзін дня, займаюцца толькі ў адну змену. У самім Валоміне будуецца гімназія і ў праекце яшчэ адна школа. Мясцовыя ўлады лічаць, што такім чынам можна будзе вырашыць праблему двухзменкі. У суботу ў школах ніхто не займаецца. Чатыры класы ў Польшчы даюць сярэднюю адукацыю. Далейшае навучанне -- да 8 класаў, дзеці атрымліваюць у каледжах. Калі ёсць жаданне вучыцца далей -- ідуць у ліцэі і універсітэты.

Зарплата настаўніка ў сярэднім складае 700 злотых (гэта 175 долараў) у месяц і лічыцца невялікай. Зарплата залежыць ад адукацыі і працоўнага стажу.

Не маюць польскія школы патрэбы ў канцылярскіх таварах, у грашах на рамонт школ. Сродкі выдзяляе гміна. Бацькі вучняў на рамонт не скідваюцца, хаця рабіць нешта канкрэтнае, бывае, дапамагаюць. Па ўласнаму жаданню.

Польскія вучні не ездзяць збіраць каменне, палоць буракі, не праходзяць працоўную практыку на палях. Для нас гэта неяк дзікавата, але адумаешся і дацяміш, што ў іх няма дзе. Калгасаў, саўгасаў няма, а фермеры і самі спраўляюцца.

Няма ля школ прышкольных надзелаў, дзе вырошчваліся б агуркі, буракі ды капуста. Урокі працы не праходзяць з віламі і рыдлёўкамі; вучні не капаюць гной, не поляць і не ўбіраюць. На ўроках працы яны даюць волю фантазіі і рукам -- чаго толькі там не панаробленa! Во дзе магчымасць праявіць свае здольнасці.

Адным словам, вучні ходзяць у школу за ведамі, а не за працоўнымі мазалямі. Радкоўе «вучоба -- гэта праца дзяцей» адпавядае сапраўднасці. Пройдзе час і кожны з іх вызначыцца і сам пачне працаваць.

Гэта нашы дзеці цэлага палета, затым восень задарма працуюць у калгасах і з дзяцінства прывучаюцца да рабскай працы і патурання. Крыўдна за дзяржаву, якая так не паважае чалавека.

Калі ў нас у пятніцу гараджане кіруюцца на дачы, у вёскі, каб папрацаваць (такі адпачынак), то ў Польшчы на пятніцах выязджаюць з горада на вёску адпачываць ад гулу, бегатні, работы.

Вось вам і розніца.

***Працяг будзе.***

*У прэзідэнта юбілей*

# Жыць як набяжыць?

Ну вось і скончыўся пяцігадовы тэрмін праўлення прэзідэнта А.Лукашэнкі. Як двоечнік, ён нарабіў шмат «падарункаў» сваім грамадзянам. І хоць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі салаўём заліваюцца, выхваляючы час яго праўлення, выць хочацца простаму селяніну, рабочаму, інтэлігенту ад падобнай «праўды».

Усе мы людзі занятыя і летам рупімся, як пчолкі, каб зіму сустрэць з такімі-сякімі прыпасамі. Ні тэлевізар паглядзець, ні радыё паслухаць няма калі. Пра газеты не кажу -- грошай на іх выпіску няма. Але неяк нядаўна паслухала па радыё перадачу «Размова па-сутнасці» і яна мяне так зацікавіла сваімі дыферамбамі, што я адклала ўсе справы, і, сціснуўшы ў кулак абурэнне, паслухала яе да канца. На перадачы прысутнічаў нейкі чыноўнік, які ў перапынках паміж тэлефоннымі званкамі, расхвальваў палітыку прэзідэнта. Што ён хваліць -- зразумела: «кукушка хвалит петуха за то, что хвалит он кукушку». А вось астатнія падзякі... Тут няма слоў. Перш чым сказаць пра іх, паведамлю, што вышэйзгаданая перадача ідзе дзесьці з 11 да 13.00. Тэлефон, па якому можна дазваніцца да студыі, даецца толькі ў пачатку перадачы. Затое на працягу яе некалькі раз паўтараецца назва. А трэба было б наадварот. Час, выбраны для «размовы па-сутнасці» вельмі «зручны» для працуючых: яны альбо на працы, альбо язык на плечы бягуць на абед і зноў на працу. Ім не да размовы, хоць яна і па-сутнасці. Ля радыёпрыёмнікаў хатні гаспадыні і пенсіянеры, не занятыя ў чэргах і на дачах. Паслухаўшы, я зрабіла вывад: гэта перадача для пенсіянераў, якім трэба выгаварыцца. Радыё дае ім такі шанс і падобныя «размовы па душы» ўзводзяцца ў ранг абсалюту, выдаюцца за «народнае шчасце». Вельмі крыўдна. Кожны з нас мае права думаць. Але ж многія зусім не ўдзячны Лукашэнку за яго прэзідэнцтва. Лукашэнка -- не «пасланнік Бога», як там распавядаюць, а пакаранне боскае нам усім.

Але вернемся да тэлефонных званкоў у студыю. Дзякуюць прэзідэнту, жанчыны захапляюцца яго спартыўным выглядам, складаюць «оды» ў яго гонар, прычым на словах -- душа нанайніцу ад удзячнасці, а ў одах адны праблемы. Гэтай супярэчлівасці аўтаркі не разумеюць. І, вядома ж, самая большая заслуга прэзідэнта ў тым, што пенсіянерам і рабочым своечасова даюць пенсіі і зарплаты.

Слухаю і горка, страшна ад таго які наш люд цёмны! Наколькі мала яму трэба, наколькі ён непатрабавальны да сябе і іншых, наколькі нізка сябе цэніць.

Людцы, зразумейце: у любой цывілізаванай краіне святы **абавязак** забяспечыць людзям аплату за працу ці пенсіі па ўзросту. Няма чаго дзякаваць за гэта прэзідэнта. Ён не ласку робіць усім Вам, гэта ён **павінен рабіць**, ён прыносіць прысягу. Акрамя таго, дзяржава павінна забяспечыць грамадзянам прыстойнае жыццё. Пра гэта няма наогул размовы: ядзём і п'ём самае таннейшае, а, значыць, горшай якасці, эканомім на сабе, прыносячы шкоду свайму здароўю; лекаў не можам дакупіцца, працы якая б адпавядала спецыяльнасці няма, плацяць не за розум і талент, а за паслужлівасць, за ўменне падлізвацца і дагаджаць.

Ці варта дзячыць, адпрацаваўшы 45 год рабом у калгасе за пенсію ў 10 долараў? У Галандыі, згодна заканадаўства, падзылыя людзі, якія дасягнулі 65-гадовага узросту, атрымліваюць штомесяц па 550$ нават калі не працавалі нідзе за ўсё жыццё ніводнага дня. І дыферамбаў уладам не пяюць. А калі якая крышачку крытыка ў адрас прэзідэнта праб'ецца, чыноўнік з перадачы тут жа адрэагуе: «Прэзідэнту цяжка, скажыце дзякуй, што хоць пенсію плацяць у час». Сапраўды, сумленне ў многіх гэта як няякасны тавар у нагрузку. Пры камунізме было нядрэннае правіла: партыйцы крычалі, гулялі, злоўжывалі, але на сходах перад людзьмі займаліся крытыкай і самакрытыкай. Паказуха была, але ж можа хто і верыў таму. Затое цяпер няма ніякіх межаў: «вертыкаль» хваліць сябе без зазору сумлення. Ды так, што паслухаўшы, выходзіць, мы ўжо ледзь не перагналі Амерыку. Выходзіць, што працаваць ужо няма над чым. Усё добра, а на самой справе Беларусь на 60-ым месцы ў свеце па сацыяльна-эканамічнаму развіццю сярод 174 краін. 62% насельніцтва знаходзіцца за мяжой беднасці. Знешні доўг Беларусі «не надта вялікі»: калі раскінуць на ўсіх, то выйдзе па 91$ на чалавека. І пенсіянер, які ўсё жыццё задарма гарбаціўся, і немаўля, якое ні на грош не атрымала ад дзяржавы, **павінны** ён ледзь не па 50 мільёнаў. Калгасы са статусам інвалідаў. Паказчыкі вытворчасці, як той мыльны пузыр: колькі трэба -- толькі і зробяць. Нараджальнасць падае, як снежны камяк з гары. Пачынаючы з 1993 г. наша краіна не далічваецца па 40 тысяч маленькіх жыхароў штогод. Смяротнасць у тры разы пераўвышае нараджальнасць. Той, хто яшчэ крыху кратаецца, працуе за грашы і корміць братнюю Расію, згодна статыстыкі ў якой 80% прадуктаў харчавання завазныя і толькі 20 -- уласнай вытворчасці. Параўнайце неабсяжныя прасторы Расіі з куцымі кіламетрамі Беларусі і вам дрэнна стане: у іх 20% прадуктаў сваіх. А мы лезем у Саюз.

Скончылася праўленне прэзідэнта, але калі наяве скончыцца наша пакаранне Лукашэнкам? Мусіць, не хутка, бо па тэлебачанні апазіцыю называюць «назойлівай мухай, прыхлопнуць якую рукі не даходзяць». У «гонар» юбілею віцебскі мастак прывёз да рэзідэнцыі Лукашэнкі тачку з гноем. Можа і занадта круты пратэст і не зусім прыстойны, але ж неяк трэба даць зразумець пенсіянерызаванай краіне, што ёсць людзі, якія думаюць інакш, якія хочуць, каб усім, і старым, і маладым жылося добра. Я ніколі не была ні ў якіх партыях, я нічога не маю супраць Лукашэнкі як чалавека, але ўпэўнена, што прэзідэнт ён слабы. Не хапае яму ведаў, дыпламатычнай тактыкі, практычнага палітычнага вопыту, самакрытыкі, імкнення да перадавога, новага. Партыйная школа і партыйная практыка надзейна асцерагаюць яго ад дэмакратычных «скразнякоў».

Вынік 5-гадовага праўлення прэзідэнта відавочны: простаму люду стала жыць горш. Гэтым сказана ўсё і паўнамоцтвы, маючы гонар, трэба было б скласці. Каб прэзідэнт дбаў пра свой народ, яно так і было б. Але ў нас кіраўнікі ад прагі ўладарыць, а не па прызванню, таму «пир во время чумы» працягваецца: дурні і гультаі шыкуюць, разумныя і працалюбівыя гаруюць.

Ну некалі ж гэтаму прыйдзе канец.

**М.Глінская**

